 


нумары: Гайнаўскі бюджэт

Багацеем танным коштам

Сны Колькі Сплюха

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (413) | ГОД IX | 26 СТУДЗЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

## ЦІ „СТАРЭЕЦЦА" АМАТАРСКІ РУХ

ІНТЭРВ'Ю «НІВЫ» З ЧЭСЛАВАМ КАЛУЖНЫМ — ДЫРЭКТАРАМ ДЭПАРТАМЕНТА КУЛЬТУРНА - АСВЕТНАЙ ПРАЦЫ І БІБЛІЯТЭК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА.



**— Неаднойчы сустракаемся з думкай, што ў сувязі з усё больш узрастаючымі магчымасцямі вясковага насельніцтва карыстацца «вялікай культурай» (радыё, кіно, тэлебачанне і г. д.) мастацкі аматарскі рух з'яўляецца чымсьці ўстарэлым. Якія Вашы меркаванні ў гэтай справе?**

— Даволі часта можна пачуць, што магчымасць бываць у кіно, у прафесіянальным тэатры, карыстацца тэлебачаннем і г.д. робіць аматарскі рух свайго роду перажыткам. «Праціўнікі» аматарскага руху часцей за ўсё не разумеюць яго сутнасці і сэнсу. Пераважна бачаць толькі яго намесныя функцыі: паколькі да тэатру далёка, а тэатр у вёску прыехаць не можа, дык аматары стараюцца яго неяк замяніць. І калі ўжо тэлебачанне можа дайсці на вёску з тэатральнымі пастаноўкамі, — мяркуюць, — дык шкада сродкаў і энергіі на нешта «горшае». Так, наогул, выглядаюць гэтыя разважанні. Калі ж гэтыя людзі даведаюцца, што ў краінах са значна гусцейшай сеткай тэлевізараў (ЗША, СССР) аматарскі рух усё больш пашыраецца, з кожным годам усё больш калектываў і аматараў самадзейнасці, тады бязрадна разводзяць рукі, бо нехапае аргументаў на абарону сваіх поглядаў.

Праведзеныя ў нас доследы паказалі, што развіццё масавых сродкаў перадачы культуры вядзе за сабой узрост культурных зацікаўленняў, а ў выніку гэтага ўзнікненне розных форм і калектываў, ствараючых умовы карыснага і цікавага правядзення часу.

Значыць, не можа быць гаворкі аб тым, што аматарскі рух «старэецца». Калі б доступ да тэатраў, кіно, выставак і г.д. абмяжоўваў патрэбу ў аматарскім руху, чым бы можна было вытлумачыць багаты па зместу і форме аматарскі рух студэнтаў? Аднак жа студэнцкі аматарскі рух усё развіваецца, хоць студэнты жывуць у вялікіх цэнтрах культуры і карыстаюцца рознабаковымі дасягненнямі «вялікай культуры». Тут не месца на глыбокія вывады, тым больш, што кожны, хто сур'ёзна задумаецца заняцца аматарскім рухам, знойдзе багатую (польскую і іншую) бібліяграфію.

(Працяг на стар. 5)

ЛЮДЗІ 20-ГОДДЗЯ

## НА ПЕРАДАВОЙ ЖЫЦЦЯ

1.

Непадалёк раздаўся выстрал. Гэта занепакоіла Паўла Храноўскага. Што рабіць? Касіць далей ці хавацца? Але хавацца было ўжо позна. Чатыры немцы з аўтаматамі выхіліліся з-за хваіны і крыкнулі: «Рукі ўверх». І апала каса на пракос. Схапілі Храноўскага немцы і пагналі. Самі селі на веласіпеды, а яго заставілі бегчы. У Міхалове кінулі яго ў склеп. Уяўленне аб смерці не давала яму спакою. Ужо чацвёрты раз над ім здзекваюцца. Чацвёрты раз арыштоўваюць. Чацвёрты раз па некалькі дзён сядзіць ён, не еўшы і не піўшы. На пяты дзень немец загадвае Храноўскаму выходзіць са склепа. «На расстрэл пагоняць», — падумаў ён. Гэтак падумалі і іншыя сябры па нядолі, якія сядзелі ў склепе. І калі сказалі яму ісці дамоў, проста не верыў і з радасці аж заплакаў. Гэтым разам зноў апраўдалі яго добрыя людзі. Даказалі немцам, што ён не камуніст і што не аказвае падтрымкі партызанам.

2.

З-пад Белавежы павыганялі немцы людзей, а вёскі папалілі. Частка жыхароў пушчанскай вёскі Міклашэва аказалася каля Міхалова. У адной з гэтых сем'яў разыгралася трагедыя. Муж забіў жонку, а мужа за гэта расстралялі немцы. Асталося трое маленькіх дзяцей. Міхалоўскі камісар загадаў расстраляць і безапечных дзяцей. Але апека над нялетнімі дзяцьмі хутка знайшлася. Павел Храноўскі забраў іх да сябе. Шасцігадовага Жорыка ўсынавіў і перапісаў на сваё прозвішча. Жорык і цяпер жыве разам са сваім новым бацькам. Ён ужо жанаты і мае прыгожую дачку. Паўла Храноўскага заве ён бацькам.

3.

Бандыцкі тэрор бушаваў на Беласточчыне. Гінулі прыхільнікі маладой народнай улады, а ў першую чаргу члены Польскай Рабочай Партыі. У гэты час Паўлу Храноўскаму даручаюць аўтамат і гранаты. Яго заданне: арганізаваць у вёсцы Азяблы групу народнай міліцыі — ОРМО. Пакуль ён быў адзін, у хаце спаць не прыходзілася, бо бандыты ўжо не раз шукалі яго.

— Аднойчы ноччу ляжу я ў клуні, — успамінае Павел Храноўскі, — і чую, што ў хату дабіваюцца бандзёры. З аўтаматам і гранатамі выскачыў я з клуні і схаваўся за калодзеж. Калі будуць шукаць у будынку, разлажу іх тут, — падумаў тады. Але бандыты пакінулі хату і пайшлі па вуліцы. Праз нейкі час было ўжо 5 армоўцаў у Азяблах, а пасля яшчэ больш. Мікалайчыкаўскія салдаты ўжо баяліся наведваць гэтую вёску.

У час першых выбараў партыя накіроўвае Паўла Храноўскага «ў цяжкую» мясцовасць — у Ясвілы.

4.

Не многа ёсць такіх людзей у нашых вёсках, якія ад пачатку народнай улады з'яўляюцца раднымі. Павел Храноўскі ў першыя гады народнай улады быў гмінным радным у Міхалове, а калі перасталі існаваць гміны, яго выбіраюць грамадскім радным. Верацъ яму сяляне і паважаюць яго.

(Працяг на стар. 3)

Уладзімір ПАЎЛАЎ

## ДРУГУ

Прыдзі, мой друг, з любой далёкай далі
Калі цябе пакрыўдзілі ў жыцці,
Калі ў душу зласліўцы наплявалі
І трэба будзе гора адвясці.
Прыдзі, скажы і я табе павеору,
Што дармаеды наш паганяць май,
Ды толькі вельмі не хапі праз меру,
На іх капыл усіх не падганяй.
Тут нешта самі мы недарабілі
І нам вярнуцца выпадзе назад.
Мы разам бой дадзім зялёнай цвілі
Пасля ў шляху дагоніш свой атрад.
Калі ж ты крыўду выпусціш за дзверы
І як скулу па свету панясеш,
Калі ты ў сілу нашу не паверыш,
Тады ў душу ты сам мне наплюеш.



МАРОЗНАЮ РАНІЦАЮ

Фота: У. Паўлючук

 

## ПАМЁР ЯНКА ЖУРБА

**Пасля працяглай хваробы 7-га студзеня памёр старэйшы беларускі паэт Янка Журба (Іван Івашын).**

**Першыя вершы Янкі Журбы з'явіліся ў газеце «Наша ніва» ў 1909 годзе. Ён — адзін з паслечнікаў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

**Першы зборнік вершаў Янкі Журбы — «Заранкі» — выйшаў у 1924 годзе. У пасляваенныя гады Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла некалькі кніг паэта — аднатомнікі выбраных твораў, зборнікі новых вершаў, кнігі для дзяцей.**

ВЕСТКІ з БССР

# Пашыраецца сыравінная база

Мінеральна - сыравінная база Савецкай Беларусі няўхільна пашыраецца. Гэтаму ў першую чаргу садзейнічае выяўленне новых багаццяў у нетрах беларускай зямлі.

Вядома, што разведаныя запасы калійных солей Старобінскага (Салігорскага) месцанараджэння настолькі вялікія, што іх хопіць для забеспячэння сыравінай дзесятка калійных камбінатаў роўных па магутнасці будуючамуся салігорскаму. Вытворчасць мінеральных угнаенняў на Салігорскім камбінаце дае магчымасць забеспячэння імі не толькі патрэбы сваёй рэспублікі, але і дастаўляць іх у суседнія эканамічныя раёны краіны.

На базе спажыўнай солі Старобінскага і Давыдаўскага месцанараджэнняў намячаецца пабудаваць Беларускі хімічны камбінат.

Разведана таксама багатае Жытковіцкае месцанараджэнне гранітаў. Новае месцанараджэнне высакаякасных кварцавых пяскоў, адкрытае ў пасёлку Леніна Гомельскай вобласці, дасць магчымасць значна павялічыць забеспячэнне сыравінай шкляную прамысловасць, адкрые перспектывы пераўтварэння Беларусі ў найважнейшы цэнтр вытворчасці розных і каштоўных вырабаў са шкла.

Працы, якія цяпер праводзяцца ў Беларусі па пошуках і разведцы нафты, газу, жалезнай руды і іншых карысных выкапняў, яшчэ больш пашыраць мінеральна - сыравінную базу рэспублікі, з'яўляецца важнай прадпасылкай далейшага развіцця вытворчых сіл Савецкай Беларусі.



На здымку передавыя шахцёры Салігорскага калійнага камбіната (злева направа): брыгадзір Генадзій Карабаеў, праходчыкі Мікалай Чуракоў і Мікалай Цішчанка перад спускам у шахту.

# НА ПЕРАДАВОЙ ЖЫЦЦЯ

ЛЮДЗІ 20-ГОДДЗЯ

(Працяг са стар. 1)

Бо ніхто іншы столькі не клапоціцца аб справах сваёй і суседніх вёсак, як Павел Храноўскі. Не раз яму прыходзілася з'ездзіць у Беласток, каб у Азяблах была 4-класная школа, каб загаспадараваць пакінутыя землі, каб меліяраваць пашы і сенажаці. На сесіях ГРН ён заўсёды актыўны, заўсёды дапамагае вырашаць тыя ці іншыя праблемы сваёй мясцовасці.

У прэзідыуме ГРН у Міхалове нам сказалі так: Павел Храноўскі часам залішне бароніць сялян, за многа дабіваецца праўды. Вычуваецца, што крыху недалюбліваюць яго ў прэзідыуме. Праз некалькі гадзін мы ў Азяблах, у хаце старога раднага. Застаем яго над газетамі. Хутка ў нас завязваецца гутарка аб вясковых справах.



— На нашых сенажацях, — гаворыць Павел Храноўскі, — пракапалі меліярацыйны роў. Пакуль што нічога ён не дае, таму што сенажаці немеліяраваныя і незагаспадараваныя. А ўжо прыслалі плаціць кожнаму гаспадару па 1300 зл. Гэта ж няправільна. Меліярацыя не праведзена, ураджаі сена не павысіліся. Надаеў я ўсім у ГРН у Міхалове і ў ПРН у Беластоку, але дабіўся анулявання гэтых несправядлівых аплат для нашых сялян.

5.

Павел Храноўскі быў арганізатарам партыйнай ячэйкі ў сваёй мясцовасці. Ад пачатку народнай улады да нядаўна быў сакратаром партыйнай арганізацыі, якая ўвесь час была палітычным кіраўніком сваёй вёскі. Паўлу Храноўскаму мінула ўжо 70 год. Цяжкавата яму выконваць два грамадскія абавязкі — сакратара ПОП і раднага. Месяц таму назад партыйную арганізацыю ўзначаліў яго выхаванак, прыбраны сын Юры Храноўскі.

6.

Прыемна гутарыцца з Паўлам Храноўскім. Цікавая ў яго біяграфія. У час рэвалюцыі ў Расіі ён абараняў маладую савецкую ўладу, пачаткова як салдат, а пасля як працаўнік Чрэзвычайнай Камісіі (ЧК). У час санацыйнай Польшчы праследвала яго паліцыя. Пры нямецкай акупацыі аказваў падтрымку партызанам. А ў першыя гады народнай улады ўмацоўваў яе на Беласточчыне. Зараз ён і далей з'яўляецца актыўным будаўніком лепшага заўтра ў нашай краіне.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# ПАЭЗІЯ, ВЫКАВАНАЯ ЗМАГАННЕМ

26 студзеня спаўняецца 50 год з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Валянціна Таўлая. Яго творчасць складае неад'емную частку паэтычнага летапісу гераічнай барацьбы беларусаў за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы ў былой Заходняй Беларусі. Сам актыўны ўдзельнік гэтай барацьбы, Валянцін Таўлай спазнаў суровы вопыт мінулых год, спазнаў шлях змагара - рэвалюцыянера. Давялося паэту не раз дзяліць лёс сваіх сяброў, такіх як і ён палітзняволеных дэфензівы. Гэтыя цяжкія выпрабаванні выхоўвалі Таўлая на стойкага, вынослівага чалавека. Такім ён з'яўляўся і ў паэзіі, з якой выступіў у канцы 20-х гадоў.

Творчы набытак В. Таўлая багаты высокамастацкімі вершамі і паэмамі. Спалучае іх адна агульная рыса — непахісная вера ў перамогу справы, за якую змагалася маладое пакаленне беларускіх камунараў. Можа найвыразней аб гэтым сведчыць верш «Думы непакорныя», дзе аўтар заяўляе не толькі аб сваёй самаадданасці ў барацьбе, але і разам з тым аб сіле паэзіі, якой служыў:

**Мне не шкада жыцця,**
**хоць недажыта,**
**недапяяных песень**
**толькі жаль,**
**бо песні звонкія, што ў**
**сэрцы спяць, як пліты,**
**сваім запалам рэжуць**
**без нажа.**

Да лепшых паэм В. Таўлая належаць «Песня пра сухар» і «Таварыш». І тут паэт ва ўвесь голас гаворыць аб сваёй і сваіх сяброў па барацьбе непакорнасці.

1939 год сустракае В. Таўлай у гродзенскай турме. Наступае ўз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзіную беларускую дзяржаву. Гэтая гістарычная падзея выклікае ў паэта сільны прыліў паэтычных сіл, параджае новыя хвалюючыя тэмы. Аднак і зараз не забывае ён мінулых год, якім аддае частку таленту. У гады вайны бачым В. Таўлая ў партызанскім стане, у зменены умовах, дзе часцей даводзілася трымаць зброю, чымсці пяро. Жыццёвыя нягоды сур'ёзна надарвалі арганізм беларускага паэта, які неўзабаве пасля перамогі над гітлераўскай Германіяй — у пачатку 1947 года — памірае. З пякучым горам развітваецца з ім народ. І сёння, гартаючы старонкі паэтычных зборнікаў Валянціна Таўлая, ізноў адчуваем яго поруч сябе. У іх жа ж б'ецца сэрца паэта, прымножанае біццём сэрцаў удзячных яму за ўсё нашчадкаў.

**М. Канапацкі**

## Выдавецкія навінкі

БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР на год 1964

### „Беларускі каляндар" на 1964 год

**Нядаўна выйшаў з друку «Беларускі каляндар» на 1964 год. Налічвае ён 152 старонкі. Адкрываецца каляндар вершам Віктара Шведа «Бацькоўскі парог». У каляндарнай частцы ёсць праваслаўныя і каталіцкія святы. Тут можна знайсці матэрыялы з IV-га З'езда БГКТ, матэрыялы з праблем сужыцця польскага і беларускага насельніцтва, артыкулы на гаспадарчыя тэмы, карысныя парады і г.д. Шмат ёсць гумару, сатыры і здымак. Асобны раздзел — літаратурная частка.**

**Каляндар каштуе 6 зл. З перасылкай 7.20 зл. Набыць яго можна ў ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11, у рэдакцыі «Ніва» і ва ўсіх аддзелах Беларускага таварыства.**

# Энцыклапедыя ведаў аб Беласточчыне

Зацікаўленыя гаспадарчымі праблемамі Беласточчыны атрымалі як навагодні падарунак цікавую публікацыю — статыстычны гадавік Беластоцкага ваяводства за 1963 год. Гэта цэлая энцыклапедыя эканамічных ведаў аб нашым ваяводстве. У гадавіку ёсць інфармацыі аб дэмаграфіі, аб найважнейшых справах беластоцкай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва і ўсіх іншых галін гаспадаркі. Статыстычны матэрыял у выглядзе лікаў у гадавіку ілюструе не толькі актуальнае становішча гаспадаркі ваяводства, але і прадстаўляе гаспадарку дынамічна. Такое дынамічнае прадстаўленне рэгіянальнай гаспадаркі, г. зн. у разрэзе некалькіх мінуўшых гадоў, трэба трактаваць як метадычнае дасягненне рэдакцыйнай калегіі. Аўтару гэтага артыкула давялося ў Галоўным Статыстычным Упраўленні пазнаёміцца са статыстычнымі гадавікамі іншых ваяводстваў. І з прыемнасцю можна сказаць, што статыстычны гадавік Беластоцкага ваяводства ў параўнанні з падобнымі выданнямі іншых ваяводстваў з'яўляецца з некалькіх пунктаў гледжання асаблівай пазіцыяй, заключаючай у сабе метадычна ўпарадкаваны і вельмі багаты статыстычны матэрыял.

Увесь гадавік размяшчаецца на 29 друкарскіх лістах. Гэта сведчыць аб той велізарнай працы, якую ўклалі ў яго працаўнікі Ваяводскага статыстычнага ўпраўлення і рэдакцыйная калегія. Акрамя таго ў гадавіку наглядаем паглыбленне метадаў падачы статыстычных даных у разрэзе павета. Таму публікацыя дазваляе тэрытарыяльна ўявіць сабе гаспадарчую структуру ваяводства і гаспадаркі паветаў на фоне гаспадаркі ваяводства.

Ва ўсіх статыстычных гадавіках (выйшла іх ужо 5) рэдакцыйныя калегіі паслядоўна рэалізуюць прынцып дынаміч-

(Працяг на стар. 7)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Просім дапамагчы

У канцы 1962 года ў Талькоўшчыну (Сакольскі павет) прыехаў прадстаўнік павятовага саюза сельгасгурткоў з Саколкі і арганізаваў сельскагаспадарчы гурток. Запісалася 17 членаў, старшынёй гуртка быў выбраны Уладзімір Лісоўскі. Прадстаўнік пажадаў усяго добрага і паехаў.

А гурток не змог наладзіць патрэбнай працы. Мы бачым, што ў другіх гуртках (як, напрыклад, у Гуранах) добра ідзе праца і гурток мае даход.

Члены гуртка хочуць штосьці рабіць, але не ведаюць, з чаго пачаць. Мы вельмі просім, каб хтосьці прыехаў з павятовага саюза сельгасгурткоў з Саколкі яшчэ раз і дапамог нам пачаць працу.

**Кузьма**

## Энцыклапедыя ведаў аб Беласточчыне

**(Працяг са стар. 3)**

нага паказу грамадска - гаспадарчых з'яў і развіцця паветаў. Вельмі правільны прынцып. Такім чынам рэдагаваны гадавік не з'яўляецца звычайным справачнікам для чытача, які цікавіцца гаспадарчымі справамі Беласточчыны. Ён можа быць вельмі добрым падручнікам у працы па планаванню, бо дазваляе акрэсліць найважнейшыя прапорцыі ў гаспадарцы ваяводства. Асноўны статыстычны матэрыял змешчаны ў другой частцы гадавіка.

Першая частка прадстаўляе сабой глыбокі аналіз гаспадарчых дасягненняў ваяводства ў 1962 годзе. Напісана яна Е. Гонам. Гэта ўданая спроба паказу гаспадаркі нашага ваяводства на фоне гаспадаркі ўсёй краіны ў 1956—62 гадах.

На заканчэнне варта падкрэсліць практычнасць гадавіка. Ім напэўна будуць карыстацца і грамадскія дзеячы, і настаўнікі, і эканамісты, і публіцысты і ўсе, хто цікавіцца развіццём гаспадаркі Беласточчыны.

У гэтым сэнсе гадавік трэба лічыць незамененным дакументам з дыдактычнымі і пазнавальнымі якасцямі.

**А. БАРВІЮК**

## Святло ў Скупаве

У прыгожым месцы пабудавана вёска Скупава. Яна на ўзгорку. А кругом, як вокам сягнуць, ахутвае яе вянок Белавежскай пушчы. Асабліва прыгожа тут летам. Лес дае шмат цяньку, а паветра лясное — лякарства. Скупава, у большасці, вёска драўляная. Але за апошнія гады тут усё больш паяўляецца дамоў з цэглы. А ў мінулым годзе ў вёску праведзена электрычнае святло. Газавыя лямпы адслужылі сваё. Яны за нейкі час будуць тут музейнымі экспанатамі. Да гаспадарчага развіцця Скупава шмат прычыняюцца свае, вясковыя рамеснікі. Тут ёсць слёсар, сталяр, шавец, майстар гадзіннікаў і некалькі краўцоў. Змяняецца жыццё ў Скупаве, робіцца больш сучасным.

**Яўгень Рэент**
Міхноўка

## Гурток на сцэне

Вось, пасля доўгага перапынку, а затым стараннай падрыхтоўкі ляўкоўскі мастацкі гурток зноў на сцэне. На Каляды ў святліцу сабралася шмат народу. Праграма была вельмі багатай: песні, гумар і п'еса «Мікітаў лапаць». Пасля канцэрта гледачы горача дзякавалі артыстам-аматарам за прыемныя хвіліны, моцна паціскалі ім рукі і жадалі далейшай добрай працы.

Пасля канцэрта адбылася вясёлая забава.

**Віктар Харкевіч**
Ляўкова



## Добра працуе

Ніна Хлябіч ужо шмат гадоў працуе прадаўцом у бандарскай краме. Добры гэта прадавец. На працягу сваёй працы Ніна Хлябіч ніколі не мела недахопаў у краме.

Яна заўсёды дбае аб тым, каб у яе краме было ўдосталь розных тавараў. І яны тут ёсць — ад іголачкі да самых дарагіх тэкстыльных тавараў. Месячныя абароты крамы даходзяць да 70 тысяч злотых. У краму ў Бандары прыходзяць людзі нават з суседняга, Гайнаўскага павета — са Слабодкі, Лукі, Дварыска і другіх вёсак. Кідаецца ў вочы чысціня ў краме. Сюды прыемна зайсці. Усюды чыста, ахайна, хоць крама змяшчаецца ў вельмі цесным памяшканні. За прыкладную працу Ніна Хлябіч атрымала ад міністра гандлю адзнаку прыкладнага прадаўца. Гэта забавязвае яе яшчэ лепш працаваць.

(вб)

На здымку: Ніна Хлябіч у сваёй краме.

Фота **В. Рудчык**

## Вечарына ў Гайнаўцы

**У сувязі з 45 гадавінай стварэння БССР Гайнаўскі аддзел БГКТ наладзіў 13 студзеня ў Доме настаўніка ўрачыстую вечарыну. Пасля афіцыйнай часткі былі наладжаны танцы. У перапынках выступала эстрада «Лявоніха», якая дала бясплатны канцэрт.**

**На вечарыне было арганізавана шэраг конкурсаў.**

**Звыш 200 жыхароў Гайнаўкі весела правяло час на добра арганізаванай вечарыне.**

(вб)

## ЗІМОВАЯ ПРЫВАБНАСЦЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Традыцыйным звычаем ужо трэці раз Акруговая камісія лыжнай турыстыкі пры Праўленні акругі ПТТК у Беластоку арганізуе агульнапольскую лыжную вандроўку па паўночных шляхах Беласточчыны пад назвай «Вандроўка Поўначы».

Невялікі тэмп маршу (10—20 км дзённа) дасць магчымасць агледзець помнікі і найпрыгажэйшыя аколіцы Сувальскага прыазёр'я, Алецкага і Галдапскага паветаў.

Рэйд з'яўляецца дасканалай прапагандай лыжнай нізіннай турыстыкі, якая застаецца ў цяню гор. Заяўкі прыймае ПТТК у Беластоку да 31 студзеня. Лыжнікі пойдуць двума трасамі: 21 лютага — з Галдапі ў Алецка (заканчэнне 23 лютага) і 20 лютага — з Галдапі ў Сувалкі (заканчэнне таксама 23 лютага).

(лп)

# КІНО

**Праграма на 28.I.—2.II.196 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Ludzie błękitnego płomienia" (radz.), 28—30.I. „Gwiaździsty bilet" (radz.), 31.I. — 2.II.

**Кляшчэлі**
„13-ja do Jumy" (USA), 28—30.I. „Opowieść o prawdziwym człowieku" (radz.), 31.I.—2.II.

**Дубіны**
„Przystanek — komisariat" (węgierski), 1—2.II.

**Нараў**
„Chłopiec z Czarnego Lądu" (angl.), 29.I.—2.II.

**Нараўка**
„Ulica Andrzeja Krutikowa" (radz.), 1—2.II.

**Чаромуха**
„Manekin Pis" (holenderski), 28—30.I. „Sami na oceanie" (radziecki), 31.I.—2.II.

**Чыжы**
„Poślubny rejs" (angl.), 29.I. —2.II.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Gangsterzy i filantropi" (polski), 29.I.—2.II.

**Бранск**
„Droga do przystani" (radz.), 28—30.I. „Nieznajomi z pociągu" (USA), 31.I.—2.II.

**Гродзіск**
„Trudne lata" (włoski), 1—2.II.

**Орля**
„Smarkula" (polski), 29.I.—2.II.

**Райск**
„Trudne godziny" (radz.), 29.I. —2.II.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Dom z facjatą" (radz.), 28. —30.I. „Ostatni kurs" (polski), 31.I.—2.II.

**Міхалова**
„Rodzaj miłości" (angl.), 28.I. —30.I. „Krążownik szos" (franc.), 31.I.—2.II.

**Супрасль**
„Ziemia aniołów" (węgierski), 28—30.I. „Kanciarze i Spółka Akcyjna" (NRF), 31.I.—2.II.

**Чорна Беластоцкая**
„Czarny monokl" (franc.), 28 —29.I. „Przygody Krosza" (radz.), 30—31.I. „Orkiestra wojskowa" (węg.), 1—2.II.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Syn skazańca" (angl.) 28—30.I. „Ostatni kurs" (polski), 31.I. —2.II.

**Мілейчыцы**
„Przygody Krosza" (radz.), 28 —30.I. „Diabelska przepaść" (czeski), 31.I.—2.II.

**Нурэц**
„Rodzaj miłości" (angl.), 28—30.I. „Krążownik szos" (franc.), 31.I.—2.II.

**Сідра**
„Poste-Restante" (rumuński), 28—30.I. „Król Maciuś I" (polski) 31.I.—2.II.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 28—31.I.

**Сухаволя**
„Zemsta zza grobu" (franc.), 28—30.I. „Następcy tronów" (włoski), 31.I.—2.II.

**Шудзялава**
„Czarne berety" (polski), 29.I. —2.II.

**Янаў**
„Karabiny i gołębie" (węgierski), 28—29.I. „Diabeł morski" (radz.), 30—31.I. „Mam tu swój dom" (polski), 1—2.II.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Zmartwychwstanie" I i II s. (radz.), 1—2.II.

## ПАПІСАЎСЯ

Яўгень Лінкевіч нядаўна закончыў школу механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове і выехаў працаваць на Слёнск. На святы прыехаў ён адведаць бацькоў. У гэты час моладзь гуртка ЗМВ у Рыбаках арганізавала танцавальную вечарынку. Прыйшоў на яе і Лінкевіч. Яму захацелася нечым выдзяліцца сярод вясковай моладзі. Бо і як жа! Закончыў школу, працуе на Слёнску, дык не раўня прысутным на забаве.

Лінкевіч напіўся гарэлкі і пачаў устанаўляць свае парадкі. Назбіраў падросткаў і пачаў іх біць у калідоры. Калі старшыня гуртка ЗМВ Уладзімір Буйко звярнуў Лінкевічу ўвагу і папрасіў, каб супакоіўся, той груба пачаў лаяцца і ўдарыў старшыню па твары. Гэта вывела з цярплівасці старэйшых мужчын, прысутных на забаве. Яны звярнулі хулігану 5 злотых (аплата за ўступ на забаву), узялі яго пад рукі і выкінулі з забавы.

А ў сваю чаргу варта было б гуртку ЗМВ напісаць на месца працы Яўгена Лінкевіча аб яго паводзінах на вёсцы.

(вб)

— Добра, ідзіце, — сказаў Мюлер.

Адчуванне, што Мюлер усё яшчэ не даверае яму, не праходзіла. Усе яго даручэнні Рудзін выконваў, што называецца, не за страх, а за сумленне. Зомбах ужо двойчы дзякаваў яму за работу, а гэты тып быццам ведае нешта...

Рудзін нёс Бабакіну для перадачы Маркаву данясенне аб становішчы справы. Адзінае вартаснае, што было ў ім, — гэта спісак прозвішч і расстаноўка сіл у «Сатурне» і, урэшце, апісанне таго, як дасканала засакрэчана ўся справа.

— Добры дзень, Саня, — ціха сказаў Рудзін, падыйшоўшы да крамы Бабакіна. Ён адчуваў нявыказаную прыемнасць, што можна назваць жывое, сапраўднае чалавечае імя і глядзець чалавеку ў вочы са шчырай радасцю.

— Здароў, Пятро! — таксама ціха адазваўся Бабакін і ў вачах яго Рудзін убачыў уласную радасць і хваляванне.

— Мне патрэбны вязаныя шкарпэткі, добра было б дзве пары, — сказаў Рудзін.

— Сур'ёзна патрэбны?

— Так, Саня, але не цяпер, дзён праз тры.

— Фірма не падвядзе, — усміхнуўся Бабакін.

— Пакажы нешта... для гутаркі...

Бабакін выкінуў на прылавак старое паліто. Рудзін стаў яго разглядаць і непрыкметна палажыў перад Бабакіным зложаную паперку з данясеннем

— Тэрмінова? — хаваючы данясенне, спытаў Бабакін.

— Не вельмі, — уздыхнуў Рудзін.

82

— Перадам не па радыё. А гэта табе ад Маркава...

Яны развіталіся. На плошчы Рудзін зайшоў у прыбіральню, паспешна разгарнуў паперку і прачытаў радыёграму:

«Упэўнены, што ўсё ў парадку, віншую з паспяхова праведзеным першым этапам аперацыі. Цяпер галоўнае — добра замацавацца, заваяваць іх давер. Адначасова вывучайце акружаючыя вас кадры. Не спяшайце. Яшчэ раз — не спяшайце. Удар, які яны хутка атрымаюць, павінен прымусіць «Сатурн» актывізавацца; яны пачнуць спяшацца, і гэта аблегчыць вашу задачу. Перадайце Андросаву, што мы верым у шчырасць яго рашэння. Усё апошняе ў яго лёсе залежыць толькі ад яго. Яшчэ і яшчэ раз — не спяшайце».

Вярнуўшыся ў «Сатурн», Рудзін адразу ж пайшоў да Мюлера.

— Я адсутнічаў сорак пяць мінут, — далажыў ён.

— Дзе шкарпэткі — насмешліва спытаў Мюлер.

— Будуць паслязаўтра. Дарэчы, я заказаў дзве пары шкарпэт — адну для вас, пане падпалкоўнік. Калі вы іх надзенеце, вы зусім інакш будзеце адносіцца да рускага мароза і да майго імкнення набыць шкарпэткі.

Мюлер упершыню паглядзеў на Рудзіна з чыста чалавечай цікавасцю і сказаў:

— Добра, дзякую, паглядзім, — і дадаў суха: — Дзе зводка аб партызанах?

Але раней, чым пайсці па зводку ў машыннае бюро, Рудзін заглянуў да Андросава. У змрочным кабінеце Андросаў сядзеў за сталом, чытаў. Убачыўшы Рудзіна, ён устрасянуўся і паспешна адсунуў ад сябе паперу. Але Рудзін паспеў прыкмеціць, што перад ім ляжаў зусім чысты ліст.

83

— Што з вамі? — ціха спытаў Рудзін.

— Нічога.

— Давайце ўмовімся, — сказаў Рудзін, — між намі няма нічога, што мы хаваем адзін ад другога.

— Вы павінны зразумець мой стан.

— Не, я не хачу нічога разумець і абавязаны сказаць вам наступнае: мне перадалі, што маё начальства верыць у шчырасць вашага рашэння. Падкрэсліваюць, што ўсё астатняе залежыць толькі ад вас.

Яны доўга маўчалі. Раптам Андросаў загаварыў:

— Праўда дык праўда. Скажу вам, аб чым я думаў, калі вы ўвайшлі. Аб самагубстве. Фактычна я яго ўжо зрабіў, калі пайшоў на службу да ворагаў. А цяпер... цяпер я быццам завешаны ў паветры паміж жыццём і смерцю. Але вы не думайце, я думаў зрабіць гэта з карысцю для справы. Раней, чым пусціць сабе кулю ў лоб, я б застрэліў Зомбаха і Мюлера.

Рудзін з цяжкасцю здушваючы злосць, сказаў:

— У мяне няма часу слухаць неразумныя жарты. Я лічыў вас больш моцным... і больш разумным чалавекам.

Не чакаючы, што скажа Андросаў, Рудзін хутка выйшаў з пакою...

**Працяг за тыдзень**

84

